■ Якуб Корсак

## ПРАВАСЛАЎНЫЯ ВЕРНІКІ САМАВОЛЬНА ЎСТАЛЯВАЛІ “ЦЫБУЛІНУ ”НА ЎЯЗДНОЙ БРАМЕ СВЯТА-МІКОЛЬСКАГА МАНАСТЫРА

**Гэта вынікае з адказу намесніка старшыні Магілёўскага гарвыканкаму Андрэя Кунцэвіча.**

Кунцэвіч адзначае, што паводле інфармацыі ігуменні манастыра Ефрасініі купал з крыжам на ўяздной браме манастыра XVIIстагоддзя быў усталяваны у 2007 годзе па блаславенню былой ігуменні манастыра Яўгеніі. Купал пабудаваны ў тым жа стылі, як і купалы над бакавымі парталамі і апсідай сабора.

На дадзены момант у адпаведнасці с заканадаўствам манастыр звярнуўся за ўзгадненнем дадзеных работ у Міністэртва культуры Рэспублікі Беларусь.

Рэдактар газеты “НАШ Магілёў” Ігар Барысаў адзначае, што на зварот у Міністэрства культуры ігуменні Свята-Мікольскага манастыра паўплываў калектыўны зварот магілёўцаў, якія выказалі сваю незадаволенасць тым, што на старажытнай браме манастыра вырасла “цыбуліна”.

- Тое, што ўзгадненне самавольна ўсталяванай “цыбуліны” адбываецца толькі зараз, сведчыць пра тое, што “цыбуліна” была ўсталявана без узгаднення і дазволу міністэрства. Як сведчыць практыка працей нешта пабудаваць, а потым легалізаваць гэта, чым атрымаць дазвол на змены, тым болей, калі гутарка ідзе пра ўяздную браму XVIIстагоддзя. Гэта парушэнне заканадаўства. Цікава, што скажа на гэта Міністэрства культуры, - кажа Ігар Барысаў.

Уяздная брама з агароджай уваходзіць у склад комплекса гісторыка-культурнай каштоўнасці “Комплекс Мікольскага манастыра”, які з’яўляецца аб’ектам І катэгорыі і ўнесены ў пералік матэрыяльных нерухомых гісторыка-культурных каштоўнасцяў Рэспублікі Беларусь.

Нагадаем, што ў верасні каля 20 магілёўцаў накіравалі зварот у Магілёўскі гарвыканкам і Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь з просьбай даць тлумачэнні з нагоды таго, што на ўязной браме XVII стагоддзя Свята-Мікольскага манастыра паўстала “цыбуліна”, якая з’яўляецца новабудам і ніяк не пасуе да комплекса манастыра, які быў пабудаваны ў XVII стагоддзі.

Гісторык і археолаг Алег Трусаў паведаміў “НАШ Магілёў”, што падчас рэканструкцыі брамы ў пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя ніякага купала з крыжом на браме не было, а яго з’яўленне можна патлумачыць спробай рускай праваслаўнай царквы пазначыць сваю тэрыторыю, нават калі гэта не пасуе па стылю архітэктуры.

## ПАНОРАМНЫЙ БИНОКЛЬ УСТАНОВИЛИ НА МОГИЛЕВСКОЙ РАТУШЕ

**Панорамный бинокль установили на ратуше Могилева. Об этом рассказал директор Музея истории Могилева Алексей Батюков.**

Оптическую систему с приближением в 25 раз японского производства, имеющую большую разрешающую способность и широкий угол зрения, что позволяет получить качественное изображение удаленных объектов с большой высоты обзора, установили на смотровой площадке ратуши.

Но первая возможность осмотреть город от Буйнич до Николаевской церкви с помощью бинокля у могилевчан и гостей города будет только 1 октября. «На предстоящей неделе, – пояснил директор музея – нам необходимо решить вопрос дополнительного ограждения смотровой площадки, что требуется нормами техники безопасности».

Установленный панорамный бинокль, кстати, приобретенный за средства, выделенные городским бюджетом, специалисты называют профессиональным. С помощью аналогичных моделей в мире открыто 15 звезд. У могилевских туристов будет возможность благодаря мощноИй оптике любоваться панорамой города и рассматривать его самые отдаленные уголки.

Услуга эта платная. Обойдется она в комплексе с посещением смотровой площадки в районе 20 000 рублей.

С 1 октября экскурсии на смотровую площадку будут проходить в постоянном режиме. Но на зимний период бинокль с площадки снимут, так как прибор не выдерживает морозы более 10 градусов.


# НАШ МАГІЛЁЎ

http://gazetanm.eu
№81

Надрукавана на ксераксе.
Наклад 299 ас.
Адрас рэдакцыі: Магілёў,
вул. Ленінская, 29.
Распаўсюджваецца бясплатна.
gazetanm.eu@gmail.com

**Галоўны рэдактар - Вітольд Няўрыда**

Незалежнае грамадска-палітычнае выданне горада. 01 кастрычніка 2014 г.


ГРАМАДСТВА

■ Уладзімір Лапцэвіч

## “УВАСКРАСІЦЬ” КАСЦЁЛ СВ. КСАВЕРЫЯ, ІЕЗУІЦКІ КАЛЕГІЎМ І ГАСЦІНІЦУ “ФРАНЦЫЯ” МОЖНА Ў НАСЦЕННЫХ ВЫЯВАХ, ЛІЧЫЦЬ КРАЯЗНАВЕЦ АЛЕГ ДЗЯЧКОЎ




У другой палове мінулага стагоддзя ў Магілёве на месцы цяперашняй Тэатральнай плошчы былі знішчаны тры будынкі, якія і сёння былі б упрыгожаннем горада - касцёл св.Ксаверыя, іезуіцкі калегіўм і гасцініца “Францыя”. Магчымасць цалкам аднавіць іх цяпер амаль нерэальная, але тым не менш можна без асаблівых выдаткаў захаваць іх выгляд у памяці магілёўцаў, сцвярджае краязнавец, старшыня Магілёўскай гарадской арганізацыі Таварыства беларускай мовы Алег Дзячкоў.

**Праця**г **на стр.2**

## МАГІСЛАЎ: МАГІЛЯЎЧАНЕ АБРАЛІ ІМЯ ДЛЯ МЕХАНІЧНАГА ТРУБАЧА

**Магіляўчане напярэдадні абралі імя для механічнага трубача. Рукатворнага хлопчыка-гарніста, які выконвае фанфару на балконе гарадской ратушы, цяпер завуць Магіслаў. Гэты варыянт прапанаваў адзін са стваральнікаў мастацкай постаці, вядомы скульптар Андрэй Вераб’ёў, расказаў дырэктар Музея гісторыі Магілёва Аляксей Бацюкоў.**



Імя для новай магілёўскай славутасці выбралі адкрытым галасаваннем самі гараджане з некалькіх найбольш прыдатных варыянтаў. Учора на пляцоўцы каля Магілёўскай ратушы жыхары горада адзначылі Дзень гарніста — арыгінальнае мясцовае свята, якое, магчыма, стане традыцыйным.

Механічнага фанфарыста ўсталявалі на балконе ратушы 28 чэрвеня. Пасля прэзентацыі і дагэтуль у хлопчыка-гарніста былі толькі пробныя выхады. Цяпер вызначаны дакладны расклад, калі магіляўчане і госці абласнога цэнтра змогуць слухаць гарадскую фанфару на плошчы Славы. «Выхады будуць такія: 12 гадзін дня, як і раней; 8 гадзін вечара, таму што васьмёрка ўяўляе сабой сімвал вечнасці, бясконцасці. І трэці выхад – у хвіліну захода сонца», – паведаміў Аляксей Бацюкоў.

# “УВАСКРАСІЦЬ” КАСЦЁЛ СВ.КСАВЕРЫЯ, ІЕЗУІЦКІ КАЛЕГІЎМ І ГАСЦІНІЦУ “ФРАНЦЫЯ” МОЖНА Ў НАСЦЕННЫХ ВЫЯВАХ, ЛІЧЫЦЬ КРАЯЗНАВЕЦ АЛЕГ ДЗЯЧКОЎ (ПАЧАТАК НА СТР.1)



**Алег, чым цікавым вызначаліся ў гісторыі Магілёва касцёл св.Ксаверыя, іезуіцкі калегіум і гасцініца “Францыя”?**

Будынак іезуіцкага калегіўма быў пабудаваны ў Магілёве крыху раней, чым касцёл Святога Ксаверыя – у другой палове XVII стагоддзя. А падмурак касцёла быў закладзены ў 1699 годзе, адкрылі ж яго ў 1725 годзе, то бок у першай чвэрці XVIII стагоддзя. І будаваўся ён у стылі барокка.

У іезуіцкім калегіўме бясплатна навучаліся людзі розных канфесій. Навучанне ў першых класах ішло на роднай мове – на беларускай, затым на старажытных мовах – латыні, стараяўрэйскай і грэчаскай. Потым вывучаліся некалькі замежных моў. Таксама там былі цыклы так званых трывіўм і квадрыўм – абавязковыя цыклы гуманітарных і дакладных навук. Абавязковымі былі спевы, фізкультура – фехтаванне, плаванне, верхавая язда. Быў тэатр пры іезуіцкім калегіўме, была аптэка, быў агарод. І калегіўм быў вядомы за межамі не толькі Магілёва, але і за межамі Беларусі.

Сам ордэн іезуітаў забаранілі ў 1820 годзе загадам Аляксандра І, бо яны займелі на той час вельмі вялікі ўплыў у Расійскай імперыі. І будынак іезуіцкага калегіўма ў Магілёве адалі пад штаб першай рускай арміі. Некалькі гадоў у Магілёве жыў і працаваў герой кампаніі 1812 года Барклай дэ Толі - былы камандуючы першай рускай арміі і галоўнакамандуючы да Кутузава.

Пасля паўстання дзекабрыстаў некалькі дзесяткаў яго ўдзельнікаў прывезлі ў гэты будынак. Тут над імі было следства і суд. А пасля апошняй вайны ў гэтым будынку была абутковая фабрыка “1 мая”.

Касцёл Святога Ксаверыя выходзіў фасадам на Тэатральную плошчу. У Беларусі было некалькі касцёлаў, названыя ў гонар святога Ксаверыя – у Мінску і ў Гародні. У Гародні ён захаваўся, а ў Мінску быў адноўлены, бо быў зачынены за савецкім часам. У Магілёве ж касцёл св.Ксаверыя знеслі пасля вайны ў 1950-х гадах.

**Што адбывалася з гэтымі будынкамі ў мінулым стагоддзі – апошнім стагоддзі іх існавання?**

У 60-гадах будынак іезуіцкага калегіўма сталі зносіць, але магілёўскі краязнавец Іеранім Філіповіч напісаў у Мінск скаргу, што зносіцца будынак, звязаны з гісторыяй дзекабрыстаў. Мінчукі тады падключыліся і прыпынілі знос, і засталіся толькі дзве сцяны – унутраная і тарцовая. І доўгі час там быў Музей дзекабрыстаў, і была вельмі цікавая экспазіцыя. На жаль, яго расфармавалі ў 90-гадах. Зараз там месціцца дзве экспазіцыі – Музей этнаграфіі і “Магілёў губернскі”.

А касцёл Св.Ксаверыя немцы пад час вайны адчынілі, назвалі яго кірхай, хадзілі туды на набажэнствы. Як распавядаюць старажылы, там іграў арган. Вельмі моцна будынак пацярпеў падчас савецкіх бамбёжак пры вызваленні Магілёва – дзве вежы абрынуліся. І яго знеслі ў 1950-гадах.

Гасцініцу “Францыя”, пабудаваную ў стылі мадэрн у пачатку XX стагоддзя, знеслі ў 1970-х гадах. Да таго там быў абласны ваенкамат.

Зруйнавалі гэты будынак таму, што адбывалася пашырэнне вуліцы Першамайскай – ходнікі рабілі, бо не было дзе дэманстрацыі “нармальна” праводзіць. У той час асноўныя святочныя мерапрыемствы адбываліся на Тэатральнай плошчы перад драмтэатрам. Трыбуну аздаблялі партрэтамі Леніна-Сталіна.

**Ці можна нейк калі не аднавіць адразу тыя будынкі, то хоць для пачатку пастаянна ўзгадваць аб іх?**

Па-першае, у наступным годзе юбілей паўстання дзекабрыстаў. У нас была шыльда, што гэты будынак звязаны з рухам дзекабрыстаў. Яна дзесьці ляжыць у сховішчах. Яе трэба вярнуць на месца. Па-другое, там сцяна Музея этнаграфіі зусім пустая. На ёй можна зрабіць малюнак – графічную выяву іезуіцкага калегіўма, касцёла Святога Ксаверыя, гасцініцы “Францыя”. Такім чынам атрымаецца магчымасць вельмі яскрава, танна і запамінальна папулярызаваць гэтую гістарычную мясціну. І, канешне, зрабіць надпіс, што на гэтым месцы было.

**Што можна сказаць пра магчымасць аднаўлення тых будынкаў?**

Заслужны архітэктар Беларусі, які жыве ў Магілёве, Ігар Фралоў сказаў, што пры сучасных тэхналогіях магчыма ўсё аднавіць – і іезуіцкі калегіўм, і касцёл Святога Ксаверыя і гасцініцу “Францыя”. Мы ў свой час прапаноўвалі аднавіць касцёл. А паколькі каталікоў у нас не так шмат, і некалькі ёсць касцёлаў, то можна зрабіць як у Полацку – стварыць у гэтым адноўленым будынку зал арганнай музыкі і краязнаўчы музей.

**А ці не спатрэбіцца для аднаўлення будынка касцёла зносіць Канцэртны зал “Магілёў” – былы Дом палітасветы?**

Не. Калі яго аднаўляць, то яны не будуць чапляць адзін аднаго.

Калі б гэтае аднаўленне адбылося, то зусім іншы выгляд набыла б Тэатральная плошча. Зараз дамінантай там з'яўляецца першая ў Магілёве высотка, а быў бы дамінантай адроджаны касцёл Св.Ксаверыя. І гістарычны цэнтр нашага тысячагадовага горада глядзеўся значна прэзентабельней.



# У МАГІЛЁВЕ ТАВАРЫСТВА АХОВЫ ПОМНІКАЎ ЗАКЛАПОЧАНА ЛЁСАМ БУДЫНКУ ПА ЗАВУЛКУ КАМУНІСТЫЧНЫМ 10



**Часам бывае так, што не толькі дзяржаўныя чыноўнікі, але і прыватныя асобы, ва ўласнасці якіх аказаліся гісторыка-культурныя аб'екты, нядбайна адносяцца да іх стану. Адным з прыкладаў тут можна прывесці будынак по завулку Камуністычным 10, што знаходзіцца акурат насупраць другога корпуса сярэдняй школы №2 і пабудаваны ў стылі неакласіцызму.**

**На фота Ўладзімір Краўчанка, аўтар артыкула - Станіслаў Дубовік**

Двухпавярховы цагляны дом светла-шэрага колеру, як сведчыць старшыня Магілёўскага аддялення Беларускага таварыства аховы помнікаў Уладзімір Краўчанка, ёсць добрым трывалым будынкам тыповай гарадской забудовы старой часткі Магілёва. “Такіх дамоў у нас вельмі мала засталося, і рэстаўратары да яго не дакрануліся”, - кажа ён.

Згодна пашпарту будынка, што быў складзены Магілёўскім абласным краязнаўчым музеем імя Е.Р.Раманава ў кастрычніку 2010 года, дом пабудавалі напрыканцы пазамінулага стагоддзя як жылы і быў ён прыватнаўласніцкім. Да наступлення бальшавіцкай эры знаходзіўся ён на завулку Макавецкім. Першы яго паверх выкарыстоўваўся пад розныя ўстановы. У 20-ыя гады XX стагоддзя савецкія ўлады нацыяналізавалі будынак і доўгі час ён быў жылым.

Дом адметны тым, што мае высокі цокальны паверх. Вонкавыя праёмы прамавугольныя. Дэкор фасадаў складаецца з міжпавярховай складанапрафіліраванай цягі і падаконнай цягі на другім паверсе верхняга карніза. Па галоўнаму фасаду паміж другой і трэцяй воссю маюцца вертыкальныя здвоеныя цягі-пілястры. Такія ж абрамляюць вуглы фасада. Да вугла дваровага фасада прыбудаваны трохвугольны канфорс. Бакавыя фасады з трохвугольнымі завяршэннямі. Уваход у будынак збоку двара. Дах двухсхільны.




“Гэта быў жылы дом, але ўжо гадоў пяць там ніхто не жыве”, - адзначае Краўчанка. Цяпер будынак, як сведчаць афіцыйныя крыніцы, выкарыстоўваецца як адміністрацыйна-гаспадарчы будынак.

Згодна вышэйзгаданай даведкі, ад мая 2008 года дом зноў знаходзіцца ў прыватнай уласнасці. Ім валодае нехта Бураў В.А., з вёскі Лучынка Смаленскага раёна Смаленскай вобласці Расіі. Тая вёска, пэўна, ёсць адной з найменш населеных у суседнім з намі расійскім рэгіёне – паводле дадзеных ад 2007 года, што прыводзіць Wikipedia, жыве там усяго дзевяць чалавек.

Што ж тычыцца адміністрацыйна-гаспадарчага выкарыстання дома па завулку Камуністычным 10, то заўважыць гэта немагчыма. Зараз у будынка абшарпаныя і апісаныя сцены, выбітае шкло ў вокнах і заўсёды распахнутыя створкі вокнаў на другім паверсе.

Па ўсяму відаць, што да дадзенага будынку ў яго расійскага ўласніка рукі не даходзяць. Краўчанка слушна адзначае, што пакуль дому патрабуецца толькі касметычны рамонт, але паколькі ён усё больш прыходзіць у запусценне, то хутка без буйных укладанняў аднавіць будынак будзе немагчыма.

Застаецца толькі дзівіцца, чаму ўладальнік, маючы такі прывабны па ўсіх параметрах дом, не здае яго хоць бы ў арэнду.

“Яго можна было б разнастайна выкарыстоўваць. Многія арганізацыі не маюць офісных памяшканняў. Гэта значыць, яго можна здаць пад офісныя памяшканні, пад магазін, ці аддаць мастацкай школе, якой патрэбны малыя класы”, - кажа Уладзімір Краўчанка.

Ён упэўнены, што калі б уласнік абвесціў аб здачы гэтага дома, то жадаючых узяць там хоць якую плошчу ў арэнду было б больш, чым дастаткова.

“Але нідзе інфармацыі аб гэтым няма. Можа, яго проста хочуць знішчыць?” – пытаецца краязнаўца, азначаючы, што дзяржаўныя чыноўнікі ўсё ж мусяць даглядаць, наколькі выконваецца прыватнымі ўласнікамі заканадаўства аб ахове гісторыка-культуранай спадчыны.